# ULTIMATE X-MEN

ISSUE 25

АДСКІЯ ПАКУТЫ. ЧАСТКА ПЯТАЯ





СУЧАСНЫЯ ЛЮДЗІ-ІКС
#25 (2001)
ПЕРАКЛАД І
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

САЙТ: COMICSBY.BY
VK: VK.COM/COMICS_BY



MILLAR
KUBERT
MIKI




Я ЛІЧУ, ШТО ПАДОБНА ЗАРАЗ НА ЛЯЛКУ БАРБІ. НАМ САПРАЎДЫ ТРЭБА БЫЛО АПРАНАЦЬ ГЭТУЮ ДРЭНЬ, КАБ ЗРАБІЦЬ ДОБРАЕ ЎРАЖАННЕ?

НАШЫ ТАЕМНЫЯ СПОНСАРЫ – САМЫЯ ЗАМОЖНЫЯ ЛЮДЗІ НА ЗЯМЛІ, АРАРО. ПАВЕР МНЕ, ЯНЫ НАВАТ СНЕДАЮЦЬ У ГАЛЬШТУКАХ.







ДАЗВОЛЬЦЕ, Я ДАПАМАГУ ВАМ ПАДНЯЦЦА ПА ЛЕСВІЦЫ, ПРАФЕСАР...
НЕ, Я ЗАНАДТА ДОЎГА ЧАКАЎ ГЭТАГА МОМАНТА І ЗМАГУ ВАЙСЦІ Ў КЛУБ «ПЯКЕЛЬНАЕ ПОЛЫМЯ» БЕЗ ДАПАМОГІ ЛЕСВІЦЫ.

МАГЧЫМА, Я НЕ ВАЛОДАЮ ТАКОЙ ЗДОЛЬНАСЦЮ ДА ТЭЛЕКІНЭЗА ЯК МАРВЕЛ, АЛЕ МНЕ ПА СІЛАХ ПАДНЯЦЬ ГЭТА КРЭСЛА Ў ПАВЕТРА.












І АКРАМЯ ТАГО, ШТО ДРЭННАГА МОЖА ЗДАРЫЦЦА?

А, ДОБРЫ ВЕЧАР, МІСТАР РАСПУЦІН. ПРЭЗІДЭНТ ВЕЛЬМІ СПАДЗЯВАЎСЯ, ШТО ВЫ ПРЫЙДЗІЦЕ. АКАЗВАЕЦЦА, ВЫ НАРАДЗІЛІСЯ НЕДАЛЁКА АД ТЫХ МЕСЦАЎ, ДЗЕ ПРАЙШЛО ЯГО ДЗЯЦІНСТВА...

ТАР! ТАР! ТАР!

ПРЭЗІДЭНТ ХОЧА ЎБАЧЫЦЬ МЯНЕ? ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ?


















Я ЎСЦЕШАНЫ, ПРАФЕСАР. ГЭТА ГОНАР ДЛЯ МЯНЕ, НАРЭШЦЕ, СУСТРЭЦЦА З ВАМІ АСАБІСТА.

МІСТАР ШОЎ, НАВАТ НЯ ВЕДАЮ, З ЧАГО ПАЧАЦЬ. ДАСТАТКОВА ЗАЎВАЖЫЦЬ, ШТО, КАЛІ Б НЕ ВЫ І ВАШЫ ШЧОДРЫЯ СЯБРЫ, ЛЮДЗЕЙ ІКС ПРОСТА НЕ БЫЛО Б.


Я РАБІЎ ГРАШОВЫ ЎНЁСАК У БУДУЧЫНЮ, ЧАРЛЬЗ. КЛУБ «ПЯКЕЛЬНАЕ ПОЛЫМЯ» ДОБРА РАЗБІРАЕЦЦА Ў ВЫЙГРЫШНЫХ СПРАВАХ. ЗАРАЗ ВЫГАДНА РАБІЦЬ ІНВЕСТЫЦЫІ Ў ЛЮДЗЕЙ БУДУЧЫНІ.


АЛЕ ВЫ ВЫРАШЫЛІ ВЫСТУПІЦЬ ПЕРАД СУСВЕТНАЙ ПРЭСАЙ І РАСПАВЕСЦІ ЎСІМ ПРА ТОЕ, ШТО КЛУБ ФІНАСУЕ МАЮ ДЗЕЙНАСЦЬ. ГЭТА АДВАЖНЫ КРОК.
ПРЫЙШОЎ ЧАС АДКРЫТА ЗАЯВІЦЬ ПРА СВАЮ ПАЗІЦЫЮ.


ВЫ І ВАШЫЯ БРАТЫ-МУТАНТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ АТРЫМАЮЦЬ У СПАДЧЫНУ ЗЕМЛЮ, І КАЛІ ШЧЫРА, БУДЗЕ ЛЕПШ, КАБ ГЭТА АДБЫЛАСЯ МІРНЫМ ШЛЯХАМ.

ЛІЧУ, МЫ ПАВІННЫ ДАКАЗАЦЬ ГРАМАДСТВУ, ШТО АЛЬТЭРНАТЫВА МОЖА БЫЦЬ ЗАЛІШНЕ НЕБЯСПЕЧНАЙ.
ШАМПАНСКАГА, ДЖЭНТЭЛЬМЕНЫ?
ЗВЫЧАЙНА Я НЕ П'Ю, АЛЕ СЁННЯ АСАБЛІВЫ ВЫПАДАК...



ЗА БУДУЧЫНЮ, ЧАРЛЬЗ, І ЗА ЎСЕ **СУРПРЫЗЫ**, ЯКІЯ ЯНА НАМ МОЖА ПРЫПАДНЕСЦІ!


БЕДНЫ ХАЎЕР... ГЛЯДЗІ, ЯК ЁН ЕДЗЕ ПА ЗАЛЕ І ЎСМІХАЕЦЦА ЎСІМ. ЁН І САПРАЎДЫ НІЧОГА НЕ ПАДАЗРАЕ?


ШТО ЁН ДАЎ ВАМ, МІСТАР СЭВІЛ? Я БАЧЫЎ, ШТО ЁН РАЗДАВАЎ ЛЮДЗЯМ НЕЙКІЯ **КСЕРАКОПІІ**.
А, УСЯГО ТОЛЬКІ ГЛУПЫЯ НАТАТКІ З ЛОНДАНСКАЙ «ТАЙМС». ГЭТА АРТЫКУЛ СЦІВЕНА ХОЎКІНСА ПРА ТОЕ, ШТО МУТАНТЫ – АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ Ў БАРАЦЬБЕ З РАЗВІЦЦЁМ ШТУЧНАГА ІНТЭЛЕКТА.


ВЕЛЬМІ ПАТЭТЫЧНА.
НЯЎЖО ГЭТА БУДЗЕ МЕЦЬ ЗНАЧЭННЕ ПАСЛЯ СЁННЯШНЯГА ВЕЧАРА?
ВЫ ЎПЭЎНЕНЫЯ, ШТО ЁН НЕ ВЕДАЕ ПРА ВАШЫ НАМЕРЫ? ЁН ЖА ЎСЁ Ж ТАКІ **ТЭЛЕПАТ**!


МЫ ПАКЛАПАЦІМСЯ ПРА ГЭТА. А ВЫ І ВАШЫЯ СЯБРЫ ПАВІННЫ ЗАСЯРОДЗІЦЦА НА ВЫКАНАННІ СПРАВЫ, ДА ЯКОЙ МЫ ВАС РЫХТАВАЛІ.


БРАТ СЕБАСЦЬЯН ХУТКА СКОНЧЫЦЬ.


СПАДАРЫ І СПАДАРЫНІ! ПРАШУ ХВІЛІНКУ ЎВАГІ...


ЯК ВЫ ЎСЕ ВЕДАЕЦЕ, КЛУБ «ПЯКЕЛЬНАЕ ПОЛЫМЯ» – ДАВОЛІ ЦІКАВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ. ГЭТА ТАВАРЫСТВА ВЫСАКАРОДНЫХ ЛЮДЗЕЙ. ГЭТА МЕСЦА, ДЗЕ МОЖНА ЗАЙМАЦЦА БІЗНЭСАМ І ПРАВОДЗІЦЬ САМЫЯ ПЫШНЫЯ СВЯТЫ Ў СВЕЦЕ.
А ЯШЧЭ МЫ МАЕМ МАГЧЫМАСЦЬ РАБІЦЬ ШЧОДРЫЯ АХВЯРАВАННІ І ДАВАЦЬ НАДЗЕЙНУЮ ПАДТРЫМКУ САМЫМ УПЛЫВОВЫМ АСОБАМ СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ.


МЫ ПРЫЙШЛІ СЮДЫ, КАБ ЗАСВЕДЧЫЦЬ ПАШАНУ ПРАЦЫ, ВЫКАНАНАЙ ЧАРЛЬЗАМ ХАЎЕРАМ У СВАЁЙ МАЛЕНЬКАЙ ШКОЛЕ, ЯКУЮ МЫ СТАЛІ ФІНАНСАВАЦЬ ДВА ГАДЫ НАЗАД.
ТАКСАМА МЫ ЗБІРАЕМСЯ РАСКАЗАЦЬ СУСВЕТНАЙ ПРЭСЕ ПРА ТОЕ, ЯК МЫ СПАНСІРАВАЛІ ДЗЕЙНАСЦЬ ХАЎЕРА, ПАЧЫНАЮЧЫ З ПАДРУЧНІКАЎ І КАНЧАЮЧЫ ДАРАГІМ АБСТАЛЯВАННЕМ.


УПЛЫВОВЫЯ БІЗНЭСМЭНЫ, ПАЛІТЫКІ І ПРАДСТАЎНІКІ ШОЎ-БІЗНЭСА ПРЫЙШЛІ СЮДЫ, КАБ ПАДТРЫМАЦЬ НАШУ НЕВЯЛІКУЮ СУПОЛКУ І ТЫМ САМЫМ ЗРАБІЦЬ ЯШЧЭ БОЛЬШАЕ ЎРАЖАННЕ НА ГРАМАДСТВА.
ЯК ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ГЭТА СПРАВЯДЛІВАЕ РАШЭННЕ?
КАНЕШНЕ, БРАТ СЕБАСЦЬЯН.


АЛЕ ЁСЦЬ І ІНШАЯ ПРЫЧЫНА, ПА ЯКОЙ МЫ САБРАЛІСЯ ТУТ. НАВАТ ЧАРЛЬЗ ХАЎЕР НЯ ВЕДАЕ ПРА ГЭТА. ГЭТА МАЛЕНЬКІ СЮРПРЫЗ, ЯКІ Я ДЛЯ ЯГО ПАДРЫХТАВАЎ.
УСЁ Ў ПАРАДКУ, РАБЯТЫ?

ТАК, СЭР, ЛЕПШ НЕ БЫВАЕ.

ВЫ ЗАІНТРЫГАВАЛІ МЯНЕ, СЕБАСЦЬЯН. ШТО АДБЫВАЕЦЦА? ШТО ВЫ МНЕ ХОЧАЦЕ ПАКАЗАЦЬ?

ГЭТА ЎСЯГО ТОЛЬКІ МАЛЕНЬКАЯ ГУЛЬНЯ, ЯКУЮ МЫ РЭПЕТЫРЫВАЛІ КОЖНЫ ЧАЦВЕР АПОШНІЯ ПАЎГАДЫ. ПАЧЫНАЙЦЕ, ХЛОПЧЫКІ...


PETER!




ШОЎ! ДЗЕЛЯ БОГА! ШТО ТЫ РОБІЎ?
НЕЙТРАЛІЗУЮ ТВАІХ СЯБРОЎ. А НА ШТО ЯШЧЭ ГЭТА ПАДОБНА, ДУРАНЬ?


САПРАЎДЫ, ДЖЫНА?


НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ ЗА КАМЕРЫ, У ІХ НЯМА ПЛЁНКІ. НІХТО НЕ ВЁЎ РЭПАРТАЖ, ЧАРЛЬЗ, НІХТО НАВАТ НЕ ВЕДАЕ, ШТО ТЫ ТУТ.


JEAN?!



ДОБРА... Я ХАЧУ, КАБ ГЭТЫХ ТРАІХ ЗВЯЗАЛІ І АДНЕСЛІ Ў ВЕЖУ. ТОЛЬКІ НЕ КЛАДЗІЦЕ ІХ У ПЕНТАГРАМУ. ЯНА ДЛЯ ЧЛЕНАЎ УНУТРАНАГА КОЛА.
АЛЕ РАСПУЦІН ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў КА-ЛОСА, ЯК ЖА МЫ ЯГО ЦЯПЕР ПАДЫМЕМ?

А МНЕ АДКУЛЬ ВЕДАЦЬ?
ПАКЛІЧЦЕ ПАД'ЁМНЫ КРАН ЦІ АДБУКСІРУЙЦЕ ЯГО.

У ВОГУЛЕ, ПРЫДУМАЙЦЕ ШТО-НЕБУДЗЬ.


АХ, ВОСЬ ТЫ І ПРАЧНУЎСЯ.
Я ЎЖО ЛІЧЫЎ, ШТО ТЫ НЕ АЧУХАЕШСЯ, ЧАРЛЬЗ.

НАВАТ НЕ ДУМАЙ ПРА ТОЕ, КАБ СКАРЫ-СТАЦЦА СВАІМІ ЗДОЛЬНАСЦЯМІ.

КАЛОС І ШТОРМ УЖО ЗРАЗУМЕЛІ, ШТО НАША МА-ЛЕНЬКАЯ ТЭЛЕПАТКА ТРОХІ НЕ Ў САБЕ І НЕ ДАЗВОЛІЦЬ ВАМ УМЕШВАЦЦА Ў ЯЕ ЛЁС.












КОЛЬКІ Ў НАС ЯШЧЭ ЧАСУ СЕВІЛ?
ДА СВІТАННЯ ЗАСТАЛАСЯ **АДНА ГАДЗІНА ДВАЦЦАЦЬ ХВІЛІН**, БРАТ СЕБАСЦЬЯН.

Я ХАЧУ ЗАМЯНІЦЬ ВАШАГА БОГА СВАІМ ЧАЛАВЕКАМ.
ПАСЛЯ ДВАЦЦАЦІ МІЛІЯРДАЎ ГАДОЎ ЗНЯВОЛЕННЯ НАДЫШОЎ ЧАС ВЫПУСЦІЦЬ **ЧАРОЎНАГА ФЕНІКСА**, ЯКІ ЎЗВЕСЦІЦЬ ПРА НАДЫХОД **АДВЕЧНАЙ ЦЕМРЫ**.

ТЫ, ШОЎ, І ЎСЁ, ШТО ТЫ ГАВОРЫШ.

НЯЎЖО ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ, ШТО ГЭТЫЯ ПРЫВІДЫ **ФЕНІКСА**, ЯКІЯ НАВЕДВАЛІ ДЖЫНУ, УСЯГО ТОЛЬКО ВЫНІК ДЗЕЯННЯ ЯЕ НЯЎСТОЙЛІВАЙ **ПСІХІКІ**.
ЯНА – ВАСЕМНАЦЦАЦІГАДОВЫ ТЭЛЕПАТ, ЯКІ СПРАБУЕ КІРАВАЦЬ СВАІМ ДАРАМ. ГЭТЫЯ ГАЛЮЦЫНАЦЫІ НАРМАЛЬНЫЯ.


НАША ВЕРА БЯРЭ ПАЧАТАК СА СТАРАЖЫТНАГА ЕГІПТА. ЯНА ПАЎПЛЫВАЛА НА ПАЧАТАК ФРАНЦУЗСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ І ВАЙНЫ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ, СТАРЫК.
АМЕРЫКАНЦЫ ЗАСНАВАЛІ НА ЁЙ СВАЮ КУЛЬТУРУ... СВЯТАЯ ГЕАМЕТРЫЯ І АРХІТЭКТУРА Ў СЭРЦЫ КОЖНАГА ПРАДСТАЎНІКА ГЭТАЙ НАЦЫІ.
ВЕДАЕШ, ГЭТА Ж НЕ АРЛЫ ВЫЯЎЛЕНЫ НА ДЫВАНАХ У АВАЛЬНЫМ КАБІНЕЦЕ...

ЗВЯРТАЮЧЫСЯ ДА ПРЭЗІДЭНТА, ВЫ АДДАЯЦЕ ПАШАНУ ВЯЛІКАМУ ЗАЛАТОМУ ФЕНІКСУ.




ЛУХТА.
ЯК Я ЎЖО КАЗАЎ, МНЕ НЕ ВАЖНА, ЯК ТЫ ЛІЧЫШ, ЧАРЛЬЗ.
МЫ ПРОСТА ВЫКАРЫСТОЎВАЛІ ЦЯБЕ, КАБ ТЫ ДАПАМОГ ДЖЫНЕ ГРЭЙ ПАШЫРЫЦЬ СВЯДОМАСЦЬ І ПРЫНЯЦЬ ТОЕ, ШТО ПАВІННА ПРЫЙСЦІ. І НЕ ПАТРЭБНА НІКОМУ ГЭТАЯ ПУСТАЯ БАЛБАТНЯ.

УСЁ АМАЛЬ ГАТОВА, ЯК ВЫ БАЧЫЦЕ, ЯЕ ЦЕЛА ЦАЛКАМ КАНТРАЛЮЕЦЦА З ІНШАГА БОКУ.
ТЫ І ТВАЕ СТУДЭНТЫ ПАСЛУЖАЦЬ ВЫДАТНАЙ ЗАКУСКАЙ ДЛЯ ІСТОТЫ, ЯКАЯ ХОЧА ПАГЛЫНУЦЬ СВЕТ.

ОЙ, ШТО ГЭТА? ХТОСЬЦІ ПЕРАДАЕ СІГНАЛ ПА ВАШАМУ МІКРА ПЕРАДАТЧЫКУ?
НАПЭЎНА, ГЭТА ЦЫКЛОП, КІЦЦІ І РАСАМАХА. МАБЫЦЬ, ЯНЫ ПАТРАПІЛІ Ў ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ БОЙКУ НА ДЗІКАЙ ЗЯМЛІ?

НЕ, ГЭТА ТОЛЬКІ ДУРАНЬ ЗВЕР. ВІДАЦЬ, У ЯГО ЗАРАЗ БУЙНЫЯ НЕПРЫЕМНАСЦІ.

АЛЕ НЯ ТОЛЬКІ Ў ЯГО.








АД АГНЯ МАЙГО СЭРЦА, Я ЗАКЛІКАЮ ЦЯБЕ, О, СВЯТОЕ ПОЛЫМЯ! ЗВОНКУ І ЗНУТРЫ – ТЫ АДЗІНА. АД ПЕРШАГА СВЕТА ПРЫЙШОЎШАЕ.


СТАРАЖЫТНАЯ СЯСТРА ЗОР, ДАЧКА ЛУНЫ І СОНЦА. ВАЙДЗІ Ў МІСТЫЧНЫ СВЕТ. Я ЗВЯРТАЮСЯ ДА ПОЎДНЯ, АДКУЛЬ ТЫ ПРЫЙДЗЕШ!




З НЕТРАЎ ПЫЛАЮЧАЙ ЗЯМЛІ, З КАСМІЧНЫХ ПРАСЦЯГАЎ Я ЗАКЛІКАЮ ЦЯБЕ, О, ЗНІШЧАЛЬНАЕ ПОЛЫМЯ, Я ЗАКЛІКАЮ ЦЯБЕ, УЗНЯМІСЯ І ПРЫЙДЗІ!


З'ЯВІСЯ СВЕТУ, ЗІХАТЛІВЫ АГОНЬ! УВАРВІСЯ Ў НОЧ, ЗІХАТЛІВЫ АГОНЬ! З'ЯВІСЯ, ЗІХАТЛІВЫ АГОНЬ, НА ВОЛЮ ДУХА! З'ЯВІСЯ, ЗІХАТЛІВЫ АГОНЬ **СВЕТА ФЕНІКСА**!




О, БОЖА...

О, ВЯЛІКІ І МАГУТНЫ ФЕНІКС! ДАЗВОЛЬ МНЕ СЛУЖЫЦЬ ТАБЕ З ТОЙ АСАБЛІВАЙ ПАВАГАЙ, ЯКОЙ ГОДНЫ ТОЛЬКІ АБРАНЫ.

О, НАЙВЫДАТНАЯ ВЯЛІКАСЦЬ, ПРЫГАЖОСЦЬ АДЗІНСТВА. ЦІ МАГУ Я ПАКЛІКАЦЬ ЦЯБЕ, КАБ ТЫ РАСПЛЮШЧЫЎ ВОЧЫ І ПАГЛЯДЗЕЎ НА ТЫХ, ХТО ВЫКЛІКАЎ ЦЯБЕ І ХТО ЎШАНОЎВАЕ ТАБЕ?

О, ВАША ВЯЛІКАСЦЬ!

ЯК ТЫ АСМЕЛІЎСЯ! ЯК ТЫ АСМЕЛІЎСЯ ЗАГАДВАЦЬ БОГУ!

Т-ТЫ НЕ ЗРАЗУМЕЎ, О ВЯЛІКІ! ГЭТ-ТА НЕ БЫЛО ПРОСТЫМ ЗАКЛІНАННЕМ. МЫ ПАКЛІКАЛІ ЦЯБЕ НЕ ДЛЯ ТАГО, КАБ ТЫ ВЫКОНВАЎ НАШЫ ЗАГАДЫ.





ТЫ – СТАРАЖЫТНАЯ І ЖУДАСНАЯ СІЛА, МОЙ СПАДАР. НЕ ЗЛАЯ І НЕ ДОБРАЯ, НАЙВЯЛІКШАЯ СІЛА Ў СУСВЕЦЕ НЕ ПАВІННА АДКАЗВАЦЬ ПРОСТЫМ ЛЮДЗЯМ.

МЫ ПАКЛІКАЛІ ЦЯБЕ, КАБ ТЫ РАБІЎ УСЁ, ШТО ЗАХОЧАШ. І, МАГЧЫМА, ВА ЎЗНАГАРОДУ ЗА НАШУ АДДАНАСЦЬ ТЫ ДАЗВОЛІШ НАМ СЛУЖЫЦЬ ТАБЕ.

НАЙВЯЛІКШАЯ СІЛА СУСВЕТА? НЕ ДОБРАЯ І НЕ ЗЛАЯ? І ТЫ АДДАЎ ЯЕ СЯБРОЎКЕ ТЫХ ТРОХ НЯШЧАСНЫХ, ЯКІМ ТОЛЬКІ ШТО ЗДРАДЗІЎ?

ШТО?



Я НЕ БУДУ МІЛАСЭРДНАЙ ДА ЦЯБЕ, НЯШЧАСНЫ. Я ЗАБ'Ю ЦЯБЕ ЗАРАЗ, БО, НАЙПЕРШ, Я ХАЧУ ЗНІШЧЫЦЬ УСЁ, ШТО ТЫ ЗБІРАЎ ДЗЕЛЯ МЯНЕ!

...КОЖНЫ ДОМ, КОЖНУЮ РЭЧ, КОЖНУЮ КАМПАНІЮ, НАВАТ ДОЛАР І ЦЭНТ.
Я ХАЧУ РАЗБУРЫЦЬ УСЁ, ШТО ТЫ ЗРАБІЎ ДЗЕЛЯ ГЭТАГА НЯШЧАСНАГА, ЖАЛАСНАГА СТВАРЭННЯ, ЯКОМУ ТЫ ЗБІРАЎСЯ ЗРАБІЦЬ СЁННЯ СТОЛЬКІ **ЗЛА**.
ЦЯПЕР УСЁ, ЧЫМ ТЫ ВАЛОДАЕШ, НАЛЕЖЫЦЬ **ЯМУ**, СЕБАСЦЬЯН ШОЎ.
**УСЁ...**
...І ЦЯПЕР Я МАГУ ЗАБІЦЬ ЦЯБЕ.







ДЖЫНА!!!
ЗАМАЎЧЫ, ЧАРЛЬЗ. Я ЗАНАДТА ДОЎГА ВЫКОНВАЛА ТВАЕ ЗАГАДЫ.
ЦЯПЕР СКЛАДЗІ КАЛЕНІ І ГЛЯДЗІ, ЯК МАЕ **ДУМКІ** СТАНОВЯЦЦА **СПРАВАМІ**, МАЕ **ЖАДАННІ – РЭАЛЬНАСЦЮ**! АДЫЙДЗІЦЕ І ГЛЯДЗІЦЕ НА НАРАДЖЭННЕ НОВАГА СВЕТУ, ЯКІ ВЫ НЕ ЗМАГЛІ СТВАРЫЦЬ З-ЗА СВАЁЙ **СЛАБАСЦІ**!




ДЖЫНА, ДЗЕЛЯ БОГА...
УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА ТУТ, У ГЭТЫМ НІКЧЭМНЫМ БУДЫНКУ... СЭРЦЫ І РОЗУМЫ СТА СУСВЕТНЫХ ЛІДЭРАЎ, ЯКІЯ НАПОЎНЕНЫ КРЫВАДУШНАСЦЮ І АМБІЦЫЯМІ, СТАНУЦЬ ЧЫСТЫМІ І НАПОЎНЯЦЦА ЛЮБОЎЮ.




АТРЫМАЛАСЯ.
СПУСЦІМСЯ НА ТРЫ ПАВЕРХА ЎНІЗ. ТУЗІН ХВОРЫХ ДЗЯЦЕЙ РАСПЛЮШЧАЦЬ ВОЧЫ І ЎСМІХНУЦЦА ПЕРШЫ РАЗ У ЖЫЦЦІ. ІХ БАЦЬКІ ЗАПЛАЧУЦЬ, ПАДХОПЯЦЬ ІХ НА РУКІ І ЎЗНЯСУЦЬ СВАЕ МАЛЬБЫ ДА БОГА.




АТРЫМАЛАСЯ.
ЯШЧЭ НА ВОСЕМ ПАВЕРХАЎ УНІЗ. ЗАКАХАНЫ МУЖЧЫНА, ЯКІ АТРЫМАЎ АДКАЗ, ПАРВЕ СВОЙ ПАСМЕРТНЫ ЛІСТ, АДЧУЕ НОВЫ ПРЫСМАК ДА ЖЫЦЦЯ І ЗАКОНЧЫЦЬ РАМАН, ЯКІ ВАЛЯЎСЯ Ў ЯГО ПАД ЛОЖКАМ.


АТРЫМАЛАСЯ.
ЯШЧЭ НА ШАСНАЦЦАЦЬ ПАВЕРХАЎ НІЖЭЙ. ДВА ПАЛІЦЭЙСКІЯ ЗНАЙШЛІ ЦЕЛА ВАНДРАЎНІКА... О, БОЖА! ШТО З ІМ ЗРАБІЛІ, ЧАРЛЬЗ? ЯК МОЖНА ТАКОЕ РАБІЦЬ З ЖЫВЫМ ЧАЛАВЕКАМ?


АДНЫМ РУХАМ РУКІ Я...
АДНЫМ РУХАМ РУКІ Я...

ТЫ – НЕ БОГ, ДЖЫНА. ТЫ – **ВАСЕМНАЦЦАЦІГАДОВАЯ ДЗЯЎЧЫНА**, У ЯКОЙ ПРАБЛЕМЫ З **ДЫСЦЫПЛІНАЙ**. Я НЕ СТРЫВАЮ ТАКІХ ПАВОДЗІНАЎ АД АДНОЙ З МАІХ ВУЧАНІЦ.

ІДЫЁТ. ПЕРАД ТАБОЙ НЕ РЭЗУЛЬТАТ МУТАЦЫІ ДЖЫНЫ ГРЭЙ. ПЕРАД ТАБОЙ СІЛА, ЯКАЯ **СТАЛЕЙ ЧАСУ** І ЯКАЯ МОЖА **ЗАГАСІЦЬ СОНЦА**!
Я – **СІЛА ФЕНІКСА**. РАЗБУРАЛЬНІК МІРОЎ. НЯЎЖО ТЫ ЛІЧЫШ, ШТО ТВОЙ БРУДНЫ МАЛЕНЬКІ МОЗГ ЗМОЖА ПЕРАМАГЧЫ **ЗНІШЧАЛЬНІКА**?

НЕ, ТЫ – **ДЖЫНА ГРЭЙ**, ВАСЕМНАЦЦАЦІГАДОВЫ ТЭЛЕПАТ. І ТЫ РОБІШ УСЁ ТАК, ТАМУ ШТО БАІШСЯ, ШТО Ў ВАС СА СКОТАМ НІЧОГА НЕ АТРЫМАЕЦЦА.




ЧАРЛЬЗ?
ТЫ СПРАБУЕШ УЗДЗЕЙНІЧАЦЬ НА МАЕ **ДУМКІ**?


ЛІЧУ, МЫ АБОДВА ВЕДАЕМ, ШТО ЎСЯ ГЭТА ПІРАТЭХНІКА ПАСТУПОВА ВЫХОДЗІЦЬ З-ПАД КАНТРОЛІ, МІС ГРЭЙ.
ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ, Я ХАЦЕЛА ВЯРНУЦЬ ДУШУ Ў МЁРТВАЕ ЦЕЛА. ЯК ТЫ АСМЕЛІЎСЯ ЎМЕШВАЦЦА Ў ПРАЦУ БОГА?




НЕ ПРЫМУШАЙ МЯНЕ РАБІЦЬ ГЭТА, ЧАРЛЬЗ. Я ХАЧУ ВЫКАРЫСТАЦЬ ГЭТЫ **ДАР**, КАБ **ПАЛЕПШЫЦЬ СВЕТ**. І МНЕ БУДЗЕ ШКАДА, КАЛІ МАІМ ПЕРШЫМ СУР'ЁЗНЫМ УЧЫНКАМ СТАНЕ ПАКАРАННЕ **НАСТАЎНІКА** ДЖЫНЫ ГРЭЙ.


НЕ ХВАЛЮЙСЯ, **МАРВЕЛ**.
ГЭТАГА **НЕ ЗДАРЫЦЦА**!




ПРАФЕСАР?
З ІМ УСЁ Ў ПАРАДКУ. ЁН У НЕПРЫТОМНАСЦІ, АЛЕ ДЫХАЕ.

А ТЫ ЯК, ДЖЫНА?
ЁН УСЁ ЯШЧЭ Ў ТАБЕ?

КАЛІ ШЧЫРА, ПЁТР...
...Я НАВАТ НЕ ВЕДАЮ.



ЗВЕР – ЛЮДЗЯМ ІКС. АДКЛІЧЦЕСЯ, ЛЮДЗІ ІКС... ГЕНРЫ МАККОЙ ВЫКЛІКАЕ ВАС...


ГЕНРЫ, ГЭТА АРАРО. ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?
ВОХ, МАЯ ДАРАЖЭНЬКАЯ. Я БЫЎ ТАКІМ **ДУРНЕМ**. Я ПРЫЙШОЎ СЮДЫ, КАБ СУСТРЭЦЬ ДЗЯЎЧЫНУ, З ЯКОЙ ПАЗНАЁМІЎСЯ Ў **ІНТЭРНЭЦЕ**, АЛЕ МЯНЕ ЧАКАЛА НЕ ДЗЯЎЧЫНА, А **БРАТЭРСТВА МУТАНТАЎ**. І ЯНЫ ВЕДАЮЦЬ, **УСЁ ВЕДАЮЦЬ**...


ГЕНРЫ, ДЗЕЛЯ БОГА. СУПАКОЙСЯ І РАСКАЖЫ МНЕ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ, ШТО ЯНЫ ВЕДАЮЦЬ?
УСЁ, **ДАРАЖЭНЬКАЯ**... ПРА ТОЕ, ШТО МАГНЕТА ЖЫВЫ, ШТО МЫ ІНСЦЭНІРАВАЛІ ЯГО СМЕРЦЬ, ШТО ПРАФЕСАР ЗАБЛАКІРАВАЎ ЯГО ПАМЯЦЬ І ПРЫМУСІЎ ЖЫЦЬ У КВІНС...


Я НІЧОГА НЕ КАЗАЎ ІМ. І ЯК БЫ ЯНЫ МЯНЕ НІ БІЛІ, Я Б УСЁ РОЎНА НІЧОГА ІМ НЕ СКАЗАЎ, АЛЕ Ў БРАТЭРСТВА ЁСЦЬ СВАЕ **ТЭЛЕПАТЫ**, АРАРО...


ЯНЫ ПРАЧЫТАЛІ МАЕ ДУМКІ І ДАВЕДАЛІСЯ ПРА ЎСЁ, ШТО ІМ БЫЛО ПАТРЭБНА.




О, БОЖА.
ПАМЯТАЕШ, ЯК МНЕ БЫЛО ЦЯЖКА РАССТАЦЦА З ТАБОЙ?
КАНЕШНЕ, ПАМЯТАЮ.




ЦЯПЕР МОЖАШ ЗАБЫЦЬ ПРА ГЭТА.
МІЖ НАМІ ЎСЁ КОНЧАНА.


СЭР?
З ВАМІ ЎСЁ Ў ПАРАДКУ?


УСЁ ЦУДОЎНА, ПУХВІР. ПРОСТА ТРОХІ КРУЖЫЦЦА ГАЛАВА АД УЗДЗЕЯННЯ ТЭЛЕПАТЫІ.
ДАЙ МНЕ ХВІЛІНУ, КАБ Я ЗМОГ САБРАЦЦА З ДУМКАМІ І ЗРАЗУМЕЦЬ, ХТО Я ТАКІ.
ХТО ГЭТА ЗРАБІЎ?


ХТО З ВАС АСМЕЛІЎСЯ ЎЧЫНІЦЬ ГЭТЫЯ МАЛЕНЬКІЯ **ЎЦЁКІ** ЗА СПІНАЙ МАІХ ДЗЯЦЕЙ? КАМУ Я ЎСІМ АБАВЯЗАНЫ?
ГЭТА ЎСЁ **Я**, МАГНЕТА.


І ХТО ТЫ?
МЯНЕ ЗАВУЦЬ ПРАЗІМЬЯН... АДЗІН З ЭВАЛІЦЫЯНІРАВАЎШЫХ СУПЕРПРЫМАТАЎ, ЯКІ БЫЎ ВЫЗВАЛЕНЫ З ЛАБАРАТОРЫІ БРАТЭРСТВА МУТАНТАЎ.
ГЭТА Я ПРЫДУМАЎ ПЛАН, ЯК АДШУКАЦЬ ВАС. ГЭТА БЫЛА МАЯ ІДЭЯ.


ЛІЧУ, Я ЦЯПЕР ТВОЙ АДВЕНЫ ДАЎЖНІК, ПРАЗІМЬЯН. ТЫ ПАКАЗАЎ ДЗІЎНУЮ ПРАДБАЧНАСЦЬ І НЕВЕРАГОДНУЮ МУЖНАСЦЬ...


АЛЕ, НАЖАЛЬ, ТЫ З'ЯЎЛЯЕШСЯ ЎВАСАБЛЕННЕМ УСЯГО САМАГА ДУРНОГА, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ Ў МАЮ АДСУТНАСЦЬ...
SCHLUCK!


URRRK!


САПРАЎДЫ, ПРЫМАТ.
ЯК МОЖНА БЫЛО **АПУСЦІЦЦА** ДА ТАКОГА?


СПАЧАТКУ МЫ ПАВІННЫ ЗАНЯЦЦА ЧЫСТКАЙ ШЭРАГАЎ БРАТЭРСТВА І ЯГО КАПІТАЛАМ.
АДПРАЎЦЕ ПАВЕДАМЛЕННІ НАШЫМ СТАРЫМ СЯБРАМ І СКАЖЫЦЕ, ШТО Ў ІХ ЁСЦЬ ДВАЦЦАЦЬ ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ, КАБ ВЯРНУЦЦА ДАДОМУ І ПРЫНЕСЦІ ПРАБАЧЭННІ. ЦІ Я ЎЛАСНА АДШУКАЮ ІХ І ПРЫМУШУ ПРАСІЦЬ ПРАБАЧЭННЯ.
ГЭТА ТЫЧЫЦЦА І РТУЦІ З ПУНСОВАЙ ВЕДЗЬМАЙ?


НЕ, БАЮСЯ, ШТО Я НЕ ЗМАГУ ПРАБАЧЫЦЬ ІХ, ПУХВІР.
ВЕЛЬМІ ЯЎНЫМІ АКАЗАЛІСЯ ІХ ЗДРАДА І НЕКАМПЕТЭНТНАСЦЬ. І ШЧЫРА КАЖУЧЫ, ІМ НЕЧАГА АД МЯНЕ ЧАКАЦЬ...


ПРОСТА СКАЖЫЦЕ ІМ, ШТО БАЦЬКА ВЯРНУУЎСЯ.

# ХУТКА

НА COMICSBY.BY
ЗБОРНІК
СУЧАСНЫЯ
ЛЮДЗІ-ІКС
НУМАР 2




НАСТУПНЫЯ НУМАРЫ НА COMICSBY.BY







